**СОНЦА:**
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 8.10, 15.51, 7.41;
Гомель — 7.49, 15.45, 7.56;
Віцебск — 8.07, 15.34, 7.26;
Магілёў — 7.59, 15.40, 7.41;
Гродна — 8.24, 16.07, 7.43;
Брэст — 8.17, 16.16, 7.59.
**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 2 снежня
**ІМЯНІНЫ**
Халімона, Архіпа, Міхала, Яраполка, Пятра, Валяр'яна; Сабы, Хрысціны.

# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

5 СНЕЖНЯ 1992 г.
субота, № 242 (22020)

# РОЗГАЛАС

## КІРАЎНІК ПАРЛАМЕНТА ПРЫМАЕ ДЫПЛАМАТАЎ

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч прыняў часовага паверанага ў справах Рэспублікі Балгарыі ў Беларусі Стоіла Міланава Фердава па яго просьбе. Адбылася размова аб развіцці беларуска-балгарскага супрацоўніцтва.

Пытанні развіцця беларуска-амерыканскіх узаемаадносін абмяркоўваліся ў час гутаркі кіраўніка беларускага парламента і Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Злучаных Штатаў Амерыкі Дэвіда Х. Суорца, якога Станіслаў Шушкевіч прыняў па яго просьбе.

**БЕЛІНФАРМ.**

## А ХТО БУДЗЕ АБАРАНЯЦЬ РАДЗІМУ?

МІНСК. У сталіцы Беларусі ў час восеньскага прызыву (які яшчэ працягваецца) не з'явіўся на пункты збору кожны пяты юнак-прызыўнік. Акрамя таго, трэцяя частка прызыўнікоў па розных прычынах атрымалі права на адтэрміноўку, а кожны дзесяты «выбракаваны» з-за дрэннага стану здароўя. Так што, паводле даных ваеннага камісарыята Рэспублікі Беларусь, напрыклад, па Мінскай вобласці салдатамі на сённяшні дзень сталі толькі 40 працэнтаў юнакоў прызыўнога ўзросту.

## Хто шукае — той знойдзе

БАРАНАВІЧЫ. У горадзе бацькі даўно ўжо не бачаць у дзіцячых магазінах недарагіх і цёплых футраў для сваіх дзетак. Праўда, калі добра пашукаць, то тавар такі можна знайсці, як гэта зрабіў рабочы кантроль, праверыўшы адзін з мясцовых магазінаў. Дарэчы, у яго падсобных памяшканнях народныя дэпутаты і кантралёры акрамя дзіцячага адзення выявілі вязальныя апараты, прасы, цукеркі, тушонку, гарэлку і некалькі тысяч школьных сшыткаў.

Гаспадыня гэтага магазіна № 7 аддзела рабочага забеспячэння «Захадтрансгаз» Наталля Хаміцэвіч канкрэтна не змагла растлумачыць, для каго яна гэта хавала.

Загадку гэтую прыйдзецца разгадваць, па ўсім відаць, народнаму суду.

## Сустрэча на Каляды

Нарэшце вызначылася дата правядзення мінскай сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў СНД. Як паведамілі карэспандэнту БелаПАН у прэсцэнтры Рабочай групы Садружнасці, сустрэча адбудзецца 25 снежня.

**Віктар ДЗЯТЛІКОВІЧ.**
**(БелаПАН).**



На здымку: у час сустрэчы ў Вярхоўным Савеце рэспублікі.
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# Мінск—Бон: сувязям мацнець і пашырацца

Усё большую і большую цікавасць праяўляе свет да суверэннай і незалежнай Рэспублікі Беларусь. Сёння практычна не бывае дня, каб да нас з візітам не завіталі кіраўнікі той ці іншай краіны, парламентарыі, дэпутаты, цэлыя дэлегацыі з далёкага і блізкага замежжа.

...У чацвер і пятніцу з афіцыяльным візітам у Мінску знаходзілася дэлегацыя горада Бона (Германія) на чале з обер-бургамістрам доктарам Хансам Даніэльсам. Вялікая цікавасць да гасцей была праяўлена ў нашай сталіцы не выпадкова. Па-першае, паміж Мінскам і Бонам пачынаюць завязвацца вялікія і, будзем спадзявацца, карысныя для абодвух бакоў пастаянныя кантакты: гарады становяцца пабрацімамі. А, па-другое, нашаму боку і ў Бона, і ў Боне ёсць чаму павучыцца: у эканамічным, сацыяльным, культурным жыцці. Таму, калі выканаўчы камітэт Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў на чале з народным дэпутатам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Герасіменкам знайшоў у немцаў паразуменне і падтрымку, было вырашана: сувязі трэба неадкладна ўмацоўваць і пашыраць.

Учора дэлегацыю Бона прыняў Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч.

Обер-бургамістр Ханс Даніэльс праявіў да сустрэчы з кіраўніком беларускага парламента вялікую цікавасць. Ведаючы пра нашы цяжкасці ў эканоміцы, госць больш цікавіўся палітычным і сацыяльна-культурным жыццём суверэннай рэспублікі. Як ідзе праца над новай Канстытуцыяй Беларусі, чаму парламент адпрэчыў пытанне аб правядзенні рэферэндуму, што стрымлівае пераход рэспублікі да цывілізаваных рынкавых адносін — вось тыя галоўныя пытанні, на якія доктар Даніэльс атрымаў поўныя і канкрэтныя адказы С. Шушкевіча. У сваю чаргу Станіслаў Станіслававіч выказаў вялікае жаданне арыентавацца на Захад як партнёра. Пры гэтым старшыня парламента падкрэсліў, што ўся сутнасць пытання заключаецца сёння ў слабасці нашых магчымасцей па экспарце прадукцыі ў замежныя краіны. Калійныя ўгнаенні, лес, усяго некалькі відаў машын і абсталявання — вось, бадай, і ўся прадукцыя Беларусі, канкурэнтаздольная на сённяшні дзень на заходнім рынку.

Станіслаў Шушкевіч не ўтойваў: нам можна і трэба шмат чаго атрымаць ад дружалюбных партнёрскіх адносін з Федэратыўнай Рэспублікай Германіі. Бон і Мінск, якія ўсталёўваюць у гэтыя дні канкрэтныя трывалыя сувязі, стануць толькі пачаткам гэтых кантактаў. Хочацца верыць, што ў іх і сапраўды вялікая і ўзаемавыгадная будучыня.

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

## ПАВЕДАМЛЕННЕ ДЗЯРЖКАМСТАТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Дзяржкамстат Рэспублікі Беларусь падвёў вынікі работы прамысловасці за 11 месяцаў бягучага года. Яны сведчаць аб паступовым паляпшэнні работы гэтай галіны. Калі ў студзені—жніўні зніжэнне аб'ёмаў прамысловай вытворчасці ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года складала 14,2 працэнта, то ў верасні—10,8, у кастрычніку — 5,8, у лістападзе ўжо дасягнуты рост вытворчасці на 1,3 працэнта.**

**Палепшылася работа многіх галін прамысловасці. У лістападзе прадукцыя машынабудавання павялічылася на 2,6 працэнта, лёгкай прамысловасці — на 6,4, харчовай — на 3, лясной і дрэваапрацоўчай — на 2 працэнты. Аднак захоўваецца значнае зніжэнне вытворчасці ў паліўнай прамысловасці з-за змяншэння паставак нафты.**

**БЕЛІНФАРМ.**

## РАЗВЕНЧВАЕМ МІФ АБ «САЛОДКІМ» ЖЫЦЦІ

ПІНСК. Калі зусім нядаўна ў горадзе кожны дзень спажывалі да 2 тон кандытарскіх вырабаў, то зараз гэтая лічба скарацілася да 100 кілаграмаў. Прычына адна — дарага. Акрамя таго, лістападаўская датацыя ў 25 мільёнаў рублёў мясцоваму хлебазаводу, на думку яго кіраўніцтва, наўрад ці стрымае рост цэн на хлеб, бо прадпрыемства працуе на старых запасах цукру, мукі і дражджэй. Маргарын дык наогул заканчваецца, аб новых яго пастаўках пакуль што не ўдаецца дагаварыцца ні за якія грошы.

## Наша міліцыя нас беражэ. Калі ёсць бензін

**ПАСТАВЫ. (РІД). За некалькі кіламетраў ад літоўскай мяжы супрацоўнікам пастаўскай міліцыі з-за адсутнасці бензіну давялося спыніць праследаванні падазронага аўтафургона, у якім знаходзілася 11 парадзістых коней. У суправаджальных дакументах указвалася, што жывёлін везлі на продаж у саўгас «Старадворскі», але, як высветлілася пазней, у самой гаспадарцы пра гэту здзелку нічога не ведалі.**

ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ Ў ЛІЧБАХ

## Было наша—стала маё

Паводле даных Упраўлення прыватызацыі, у Рэспубліцы Беларусь прыватызаваны 124 прадпрыемствы камунальнай і 47 прадпрыемстваў рэспубліканскай уласнасці.

Арэнднымі калектывамі выкуплены 73 аб'екты, працоўнымі калектывамі — 71, у акцыянерныя таварыствы пераўтвораны 8 дзяржаўных прадпрыемстваў, адно прыватызавана прыватнай асобай.

**Таццяна ШЧЭБЕТ.**
**(БелаПАН).**

НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Лёгкі бунт на караблі

## ці спосаб выпускання крытычнай масы пары?

Станіславу Шушкевічу журналісты, ды і самі дэпутаты часта задаюць пытанне: «Хто належыць да вашай каманды? На якую фракцыю ці групу вы апіраецеся?» На што Станіслаў Станіслававіч нязменна адказвае: «Мая каманда — увесь Вярхоўны Савет». І гэта не проста тактычны ход Старшыні ці нейкая поза, гэта — пазіцыя. У проціборстве палярных сіл, палітычных амбіцый, розных поглядаў на стан спраў у эканоміцы, грамадстве, шляхі выхаду з крызісу, дзе амаль кожны лічыць сябе стратэгам, патрэбна фігура, якая, як хвалялом, гасіла б разбуральныя крайнасці, накіроўвала энергію не толькі парламента, але і краіны ў стваральнае рэчышча. Многія, у тым ліку і дэпутаты, лічылі, што такой фігурай з'яўляецца Шушкевіч. Дзеля справядлівасці зазначым, што час ад часу з розных бакоў чуліся патрабаванні да яго вызначыцца. Пытанне ставілася рубам: скажыце, нарэшце, Станіслаў Станіслававіч, з кім вы, з «кансерватарамі» ці «дэмакратамі»? Былі і абвінавачванні. Цяжкія. Цікава, што набор іх з абодвух лагераў быў аднолькавы: здрада беларускаму народу, грэбаванне яго інтарэсамі і г. д. А ён паўтараў: мая каманда — Вярхоўны Савет.

І вось заўчора, у час вячэрняга пасяджэння, пры абмеркаванні змяненняў і дапаўненняў у заканадаўстве аб Нацыянальным банку «каманда» падняла лёгкі бунт. Яму ўспомнілі ўсё: і Віскулі, і Алма-Ату, і крызіс у эканоміцы, і неплацяжы... З іх, дарэчы, і пачалося.

Праблема гэтая настолькі балючая, а калі яшчэ ўлічыць, што дэпутацкі корпус працэнтаў на 70 складаюць гаспадарнікі і прадстаўнікі выканаўчых структур, якія на сваёй шкуры адчуваюць страшэннае бязладдзе, то рана ці позна яна павінна была выбухнуць. А тут канец года, а на будучы — суцэльны туман. І ні дагавораў, ні сыравіны, ні грошай. Калі не прыняць тэрміновых мер, магчымы эканамічны калапс, катастрофа. Так што эмоцыі, крыўды, выкрыкі з месца, нават абразы ў адрас адзін аднаго можна зразумець і дараваць. Каб жа толькі яны спрыялі вырашэнню пытання.

Прадстаўнікі дэпутацкай групы «Беларусь» унеслі прапанову: ад імя Вярхоўнага Савета даць даручэнне асабіста С. Шушкевічу тэрмінова сустрэцца з Ельцыным і вырашыць праблему ўзаемных плацяжоў. Думаю, зараз і самі дэпутаты бачаць недакладнасць такой фармулёўкі, але, як хтосьці горача тлумачыў у кулуарах: тут не да фармулёвак, калі хата гарыць.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

# ФАДЫЁ ФАКТ

**У Полацку зарэгістравана новае паліграфічнае прадпрыемства «Спадчына Францыска Скарыны». Узнікла яно на базе існуючай друкарні і свабодных вытворчых памяшканняў вытворчага аб'яднання «Шкловалакно». Мера гэта вымушаная, таму што будаўніцтва новай друкарні перакрэсліла інфляцыя.**

***

«Лістапад» — так называецца мясцовае віно талачынскага віна-гарэлачнага завода. Віно нізкага гатунку, утрымлівае павышаную дозу фарбавальніку. Аднак апошняе павышэнне цэн на гарэлку зрабіла «Лістапад» самым хадавым таварам. Вінны цэх завода стаў сапраўдным манетным дваром горада.

***

**Салігорскі райвыканком строга папярэдзіў мясцовага фермера Муравіцкага за неэфектыўнае выкарыстанне зямлі. Справа ў тым, што з пасаджаных у гэтым годзе 12 гектараў бульбы адзін гектар ён не здолеў убраць наогул.**

***

У самым цэнтры Каўнаса са сквера перад музычным тэатрам украдзены дзве бронзавыя скульптуры дзеячаў культуры Літвы. З тэрыторыі Іонаўскага прадпрыемства камунальнай гаспадаркі ўкрадзены бронзавы бюст Леніна вагою 5 тон. Вось так «палююць» у Літве за бронзай. За апошнія восем месяцаў 1.110 крадзяжоў каляровых металаў адбыліся ў Літве толькі на аб'ектах, якія ахоўваюцца.

## Удакладненне

У «Звяздзе» за 2 снежня быў надрукаваны Закон Рэспублікі Беларусь «Аб статусе ваеннаслужачых». Як паведаміла рабочая група па падрыхтоўцы гэтага праекта, у рэдакцыю быў перададзены тэкст прынятага Закона з прапушчаным абзацам. У пункце 1 артыкула 11 трэба дадаць трэці абзац:

«Грашовае забеспячэнне сяржантаў, старшын, салдат і матросаў тэрміновай службы, якія праходзяць яе па прызыву, павінна быць не менш палавіны мінімальнай заработнай платы».

# Самакіраванне ў гандлі: рэальнасць ці фікцыя?

### Мала мець свабоду. Трэба яшчэ мець дазвол карыстацца ёю

**У нумары «Звязды» за 27 кастрычніка быў змешчаны матэрыял пад назвай «Сям'я — інстытут свяшчэнны. У гандлі тым больш». Там паведамлялася, што дырэктар мінскага магазіна «Богатырь» Галіна Сямёнаўна Мількевіч аказалася для свайго зяця Уладзіміра Васільевіча Шаблінскага без перабольшанняў залатой цешчай. Мала таго, што яна здала зяцеваму таварыству з абмежаванай адказнасцю «Трэйдзінт ЛТД» частку гандлёвай плошчы свайго магазіна, дык яшчэ ў верасні адпусціла па дзяржцане вялікую партыю абутку. З гэтай здзелкі магазін меў «навар з яек», а зяць — добрую капейчыну, бо ў ягонай фірме цэны на абутак куды вышэйшыя.**

Гісторыя атрымала нечаканы працяг. Галіна Сямёнаўна назвала публікацыю поўнай хлуснёй. Для такой заявы патрабуецца пэўная, скажам так, смеласць, бо незразумела, як могуць хлусіць лічбы накладной, на якой, уласна кажучы, і будаваўся газетны матэрыял. Таму, натуральна, у калектыва магазіна (дакладней, арэндна-гандлёвага прадпрыемства) узніклі сумненні ў шчырасці свайго дырэктара. Калектыў сёе-тое самастойна праверыў, супаставіў і... цвёрда вырашыў пазбавіцца ад такога кіраўніка.

Але лепш па парадку.

Мількевіч у магазіне — чалавек новы. У пачатку гэтага года, калі папярэдні дырэктар пайшла на пенсію, прывялі яе і прадставілі калектыву: вось вам вопытная, энергічная і г. д. У тым, што энергічная, пераканаліся хутка — магазін змяніўся да непазнавальнасці.

Раней «Богатырь» добра ведалі ў горадзе і вобласці як магазін адзення і абутку для поўных і высокіх людзей — такая была спецыялізацыя. Зараз клопатамі Мількевіч атрымалася нешта незразумелае: унізе посуд і гаспадарчыя тавары, наверсе — мэбля, пасярэдзіне — «камок». Плошчы пад адзенне і абутак скарачаюцца няўмольна.

І на тое, каб зяцёў «Трэйдзінт ЛТД» уладкаваць, энергіі хапіла. Спачатку, праўда, не прызнавалася, што зяць. Сказала: выканком просіць дапамагчы стаць на ногі адной камерцыйнай фірме, нават патрабуе. Ну, проста няёмка адмовіць. А потым пачаліся гэтыя боты-чаравікі, і не толькі яны. Ды што там абутак! Дробязь у параўнанні з астатнімі паслугамі.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## АНДРЭЙ САНГЕЛІ: «Сітуацыя ў Садружнасці была б зусім іншай, каб усе працавалі так, як Рэспубліка Беларусь»

Першымі словамі малдаўскага прэм'ера Андрэя Сангелі, пасля таго як спецсамалёт кампаніі «Малдова эйр-транс» зрабіў пасадку на заледзянелым полі Мінскага міжнароднага аэрапорта, былі такія: каб усе працавалі так у сваёй знешняй палітыцы, як працуе з намі Рэспубліка Беларусь, напэўна, сёння было б зусім іншае становішча ў краінах Садружнасці...

Па ўсім відаць, Малдова выходзіць з крызісу, выкліканага прыднястроўскім канфліктам. Прынамсі знешнепалітычная дзейнасць урада краіны дае падставы так сцвярджаць. 3 снежня Андрэй Сангелі зрабіў паездку па прыбалтыйскіх рэспубліках і вечарам таго ж дня прыбыў у Мінск. З ім у беларускай сталіцы высадзіўся даволі важкі дэсант з сямі чалавек: намеснік прэм'ера В. Кунеў, міністр гандлю і матэрыяльных рэсурсаў Т. Слэнінэ, першы намеснік міністра фінансаў І. Чэбук і іншыя.

— Мы прыбылі ў Беларусь з вельмі вялікімі планамі і самымі добрымі намерамі, — гаворыць прэм'ер-міністр Малдовы, — каб вырашыць практычныя пытанні і вызначыць нашы далейшыя сумесныя дзеянні.

Міхаіл Мясніковіч, першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларусі, які сустракаў дэлегацыю, у сваю чаргу адзначыў:

— Я вельмі задаволены тымі сувязямі і той работай, якая ў нас вядзецца з Малдовай. Пастаўкі з Малдовы ажыццяўляюцца, бадай, лепш, чым з іншых рэспублік. Гэта гаворыць аб адзінстве слова і справы — таго, чаго нам так часта не стае.

Асабліва хацелася б сказаць пра дапамогу, якую аказвае Беларусі Малдова ў справе аздараўлення нашых дзяцей. На ўрадавым узроўні прынята пастанова аб трохмесячным лячэнні і аздараўленні 15 тысяч беларускіх дзяцей з забруджаных раёнаў. Беларусь удзячная ўраду і народу Малдовы за такі гуманны крок.

У той жа дзень позна вечарам ва ўрадавай рэзідэнцыі ў Заслаўі пачаліся двухбаковыя перагаворы, тэма якіх — развіццё гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва. З беларускага боку ў перагаворах, акрамя М. Мясніковіча, прымалі ўдзел намеснік Старшыні Савета Міністраў М. Косцікаў, міністр рэсурсаў У. Шэпель, міністр фінансаў С. Янчук, міністр гандлю В. Байдак.

У пятніцу апоўдні перагаворы завяршыліся сумеснай прэс-канферэнцыяй для журналістаў.

**Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

# ХАТНЯЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

ВАША ЗДАРОЎЕ

## Як усцерагчыся ад прастуды і грыпу

**Халоднае сырое надвор'е і не вельмі цёплыя батарэі ў нашых кватэрах — сігнал таго, што ў калідорах паліклінік выраслі чэргі хворых прастудай і грыпам. Як усцерагчыся ад гэтых непрыемных захворванняў?**

Часта на кашаль, насмарк і павышаную тэмпературу не звяртаюць вялікай увагі — маўляў, дробязь, пройдзе. У сапраўднасці ж яны вельмі небяспечныя. Прастуды і вірусы грыпу аслабляюць арганізм і змяншаюць яго супраціўляльнасць да іншых хвароб. Засцерагчыся ад іх можна, выконваючы нескладаныя правілы.

* Часта бывайце на свежым паветры. Кісларод ажыўляе і ўмацоўвае імунную сістэму.

* Рэгулярна карыстайцеся саўнай і лазняй. Іх патагонны эфект узмоцніць вашу супраціўляльнасць інфекцыям. Тым, хто ўжо прастуджаны, варта адмовіцца ад гэтага дзеля таго, каб не перагружаць сістэму кровазвароту.

* Ужывайце як мага больш вітамін С. Гэта павінны быць не абавязкова

721



дражэ ці прэпараты з аптэкі. Замест гэтага ешце шмат садавіны. Асабліва каштоўным носьбітам вітаміну С з'яўляюцца яблыкі, апельсіны і плады шыпшыны.

* Рабіце рэгулярныя інгаляцыі з рамонку, эўкаліпту і іншых экстрактаў лекавых зёлак. Эфірныя і араматычныя алеі, што ўтрымліваюцца ў іх, выдатна папярэджваюць грып. Дадатковы станоўчы эфект у тым, што ваша скура стане больш эластычнай.

* Апранайцеся ў адпаведнасці з надвор'ем. У зімовыя месяцы асабліва рэкамендуецца вопратка з баваўны ці іншых натуральных тканін. Звяртайце ўвагу на цёплы абутак.

## Міні-гімнастыка

**Як хочацца часам па розных прычынах скараціць свае заняткі фізкультурай да мінімуму, але адначасова зрабіць так, каб выбраныя практыкаванні былі эфектыўнымі для як мага большай колькасці мышцаў і органаў цела. Такім практыкаваннем можа быць «цуда-нахіл».**

Безумоўна, абмежавацца толькі адным гэтым практыкаваннем на працягу ўсяго жыцця немагчыма. Яно здольна дапамагчы вам у «цяжкую хвіліну», калі няма часу на звычайную гімнастыку. Гэта практыкаванне сумяшчае ў сабе шмат карыснага для ног, рук, гнуткасці цела і пазваночніка, нават для прытоку неабходнай колькасці крыві да галавы чалавека пры празмернымператамленні. Яго можна выконваць і дома, і на працы, нават у гасцях (толькі лепш там, дзе ніхто не бачыць).

З асноўнай стойкі зрабіце вельмі павольна нахіл уперад. Кісцямі рук трэба дакрануцца да падлогі. Спачатку — толькі кончыкамі пальцаў, а з цягам часу, пры больш глыбокім нахіле, — далонямі. Зафіксаваць такое становішча на максімальна магчымы час. Галава пры нахіле апушчана, — магчыма, вы дакраняцеся носам да каленяў. Вярнуцца ў зыходнае становішча (таксама вельмі павольна). Пры выкананні практыкавання старайцеся не горбіцца. Выконваць практыкаванне не больш за тры разы. Калі раптам закружыцца галава, неадкладна прысядзьце на крэсла, — вам гэта практыкаванне не падыходзіць у якасці аптымальнай замены ўсяго гімнастычнага комплексу. Пашукайце што-небудзь іншае.

722

СМАЧНА ЕСЦІ!

## Духмяная кава

Чорную каву гатуюць звычайнай (1 ч. л. на кубачак вады) і двайной крэпасці (ад 2 да 3 ч. л.). Кафейнік прапаласкваюць гарачай вадой, кладуць каву, заліваюць кіпенем, даводзяць да кіпення, потым здымаюць, даюць 5 хвілін адстаяцца. Галоўная ўмова прыгатавання смачнай кавы — не кіпяціць яе, а толькі давесці да кіпення і адразу ж зняць з агню. Каву двайной крэпасці вараць двойчы: першы раз вараць звычайную чорную каву, даюць ёй адстаяцца, потым у яе кладуць другую порцыю молатай кавы і зноў даводзяць да кіпення, адстойваюць і падаюць.

Вараць чорную каву з цыкорыем і без яго. Цыкорый кладуць на смак (звычайна на 5 частак кавы 1 частку цыкорыю). Чорную каву на дэсерт можна падаць з лікёрам або тонка нарэзаным лімонам.

Смак і водар кавы маюць мноства адценняў, а які спадабаецца вам, паспрабуйце выбраць самі. Пры прыгатаванні кавы памятайце пра нескладаныя правілы.

* Па-першае: для варкі кавы бяруць толькі мяккую ваду. Калі вада жорсткая, можна пакласці ў яе кавалачак цукру.

* Па-другое: варыць каву трэба ў спецыяльна прызначаным для гэтага посудзе, заўсёды чыста вымытым, без пабочных пахаў.

* Па-трэцяе: асабліва смачная кава атрымліваецца пры змешванні гатункаў. Напрыклад, калі ёсць магчымасць, — 2 часткі арабікі, 1 частка бразільскай і 1 частка калумбійскай, або па 1 частцы арабікі і бразільскай і 2 часткі кавы «харэм».

А вось некалькі спосабаў прыгатавання духмянай кавы.

**Кава па-арабску**

2 кавалачкі цукру заліць халоднай вадой (100 г), давесці да кіпення, зняць з агню, пакласці 2 чайныя лыжкі натуральнай молатай кавы і зноў давесці да кіпення і зняць (ні ў якім выпадку не кіпяціць).

**Кава па-ўсходняму**

Засыпце ў турку 2 чайныя лыжкі молатай натуральнай кавы, пакладзіце 2 кавалачкі цукру, наліце 100 г вады,

723

пастаўце на агонь і, як толькі на каве падымаецца пена, здыміце з агню і разліце ў кубачкі. Падайце ў шклянцы халоднай кіпячонай вады.

Можна прыгатаваць **каву «пад шубай»**

У кубачак насыпце 2 чайныя лыжкі растваральнай кавы, 2 чайныя лыжкі цукру, дадайце 1 чайную лыжку кіпеню і перамешвайце лыжкай сумесь да таго часу, пакуль яна не стане светлай. Даліце 100 г вады (кіпеню) — кава гатовая: тоўстая пена добра захоўвае яе водар.

**Кава па-варшаўску**

У 50 г моцнай чорнай кавы дадаць (каб атрымалася шклянка) 125 г малака і 1 чайную лыжку цукру, пасля чаго зноў давесці да кіпення, а перад тым, як падаць на стол звараную каву, злёгку ўзбіць, каб на паверхні напітку ўтварылася пена.

**Кава па-венску**

У няпоўную шклянку чорнай кавы пакласці 2 ч. л. цукру. Ва ўзбітыя вяршкі (40 г) дадаць 1 ч. л. цукру і пакласці ў каву. У вяршкі можна дадаць таксама крыху ваніліну, а зверху пасыпаць цёртым шакаладам.

**Кава з марожаным (глясэ)**

У няпоўную шклянку ахаладжанай чорнай кавы, зваранай з цукрам, пакласці шарык сметанковага марожанага (можна пламбір).

## Карысныя парады

* Сушаную зеляніну пры прыгатаванні супоў трэба варыць дастаткова доўга, таму што смак яе праяўляецца пасля гадзіны варкі.

* Каб гародніна не перавárвалася, кладзіце яе ў каструлю не адначасова, а ў наступнай паслядоўнасці: спачатку буракі, потым моркву, потым капусту і ўжо напаследак бульбу.

* Дробка цукру, кінутая ў ваду пры варцы гародніны, значна палепшыць яе смак.

## Лекавая гарбата з лісця

Гарбата з лісця не з'яўляецца сурагатам, гэта — паўнацэнны напітак, які можна выкарыстоўваць як лекавы сродак. Састаў і гатунак траў час ад часу неабходна мяняць. На кубачак гарбаты бяруць 1—1,5 чайнай лыжкі лісця.

**Састаў траў**

1. Да лісця маліны, суніцы, ажыны ў аднолькавых прапорцыях дадаць сцяблiны мяты (5 працэнтаў ад агульнага саставу).

2. Да лісця суніцы, ажыны ў аднолькавых прапорцыях дадаць лісце падбелу (10 працэнтаў ад агульнага саставу).

**Гарбата з яблыкаў.** 1 шклянка яблычных лупін, 1 л вады. Яблычныя лупіны ўсыпаць у ваду і варыць 10—15 хвілін на слабым агні.

724

